Народная Воля http://www.nv-online.info
1 КАСТРЫЧНІКА 2019 г.

ПРАЎДА І МІФЫ

# «Забяспеч сябе сам – і будзь героем…»

*З цікавасцю сачу за дыскусіяй пра падзеі ваеннага мінулага. Тэма яе фармулюецца так: альбо прадаўжаць традыцыю гераізацыі вайны і партызанскай дзейнасці, альбо ўсё ж выцягнуць на божы свет і факты іншага кшталту – былі ж і злоўжыванні, а падчас і злачынствы асобных камандзіраў і атрадаў.*

Я паспела распытаць «дзяцей вайны» з Лагойшчыны. Старыя людзі памятаюць усё: як карнікі палілі вёскі, а паліцаі расстрэльвалі закладнікаў, як сяляне выжывалі на шчаўі і шайморах, як бацькі ўдзень баяліся немцаў, а ўначы – партызанаў, як жыхары партызанскіх зон збіралі для іх харчовы падатак, везлі ў лес кінутую пры адступленні зброю і грузы з самалётаў, як разам з атрадамі і брыгадамі зведалі пекла на возеры Палік.

Лічу слушнай прапанову *Міхася Скоблы* занатаваць успаміны жыхароў Жлобіншчыны пра паліцаяў-самаахоўнікаў і атрад, які закідаў гранатамі вяскоўцаў (найменне атрада нам не паведамілі). Звычайна мясцовых ва ўмовах акупацыі называюць «мірнымі жыхарамі», што недакладна: адных далучалі да падпольнай дзейнасці (і тым падстаўлялі) партызаны, другіх перацягвалі на свой бок завербаваныя гітлераўцамі сваякі і суседзі. Паводле сведчання сына партызана паэта *Фелікса Баторына*, былі вёскі партызанскія, а былі – паліцайскія. Яго бацька, камісар Барыс Хаймовіч, распавядаў: ён заўсёды стараўся замыкаць атрад, калі выходзілі з такога сяла, – каб байцы нікога не абрабавалі, не забілі ці не згвалцілі. Былі таксама вёскі «нічыйныя», то бок блізкія да варожых гарнізонаў, і былі паселішчы, дзе стаялі немцы, з якімі, хочаш не хочаш, даводзілася мець справу.

Калі ў хату вёскі Сярпішчана зайшоў якісь абадраны немец (яны нарыхтоўвалі паблізу лес), дзеці спалохаліся: з'есць апошні блін! Немец на мігі штосьці тлумачыў, маці не разумела, пакуль не высветлілася, што ён просіць іголку, каб зашыць штаны. Хлапчукі з палёгкай уздыхнулі.

У гарадах і мястэчках пры нямецкай адміністрацыі кармілася шмат народу. Працавалі ва ўправах, у салдацкіх і афіцэрскіх клубах, у сферы асветы (*маецца на ўвазе беларускае школьніцтва.* – **Г.К.**), а часцей наймаліся прыслугай, шафёрамі, прыбіральшчыцамі. Які-небудзь водаправодчык мог атрымаць па заканчэнні вайны па поўнай за «сношение с иностранным государством» і трапіць у Пішчалаўскі замак.

Партызанскія злучэнні ставілі перад сабой сур'ёзныя задачы, адцягвалі на сябе жывую сілу праціўніка, але слаба забяспечваліся з Вялікай зямлі. Ім не хапала ўсяго: зброі, каб ваяваць, харчавання, каб жыць, бінтоў і лекаў, каб лячыць раны. Умовы жыцця ў лесе, асабліва ў першую ваенную зіму, былі проста нечалавечыя. Паводле сведчання Н.Сталяровай, «спалі штабялямі»: пасцілалі кажухі, на іх кладліся покатам мужчыны, жанчыны, дзеці. Пакутавалі ад антысанітарыі, хвароб, вошай і часоткі, паміралі ад тыфу. Пазней набудавалі зямлянак, а атрад «Бальшавік» разабраў у Гайне пачатковую школу і перавёз яе ў лес на лазню.

Даводзілася супрацьстаяць захопнікам *«з іржавымі вінтоўкамі, знойдзенымі на месцах баёў, ды кулямётамі ДТ, знятымі з кінутых савецкіх танкаў. Хранічна не хапала патронаў, а тол даводзілася часта выплаўляць на кастры са 152-міліметровых снарадаў, рызыкуючы ўласным жыццём»* (з успамінаў заслонаўца *Мікалая Крукоўскага*).

Цікава чытаць сведчанні ўдзельніка вайны, лагойскага партызана *Юрыя Волкава*. Яго мемуары канца 1980-х гадоў, выкладзеныя на сайт сынам, сталі для мяне сапраўдным адкрыццём. У палон юнак трапіў 11 верасня пад Выбаргам: учарашнім курсантам і зброю не падвезлі, і ў тыл не адвялі. Іх «здалі» камандзіры, не здольныя прыняць уласнага рашэння. Волкаў двойчы ўцякаў з нямецкага палону, доўга блукаў па Будслаўшчыне і Дзісеншчыне, перш чым перайсці за старую мяжу і ўліцца ў партызанскі атрад. З вялікай удзячнасцю згадвае ён жыхароў Заходняй Беларусі. Колькі яны ўратавалі такіх самых бедалаг, як ён: і кармілі, і лячылі, і пакідалі на ноч, нягледзячы на забарону акупацыйных улад.

З яго ўспамінаў мы даведваемся пра дыслакацыю атрадаў, пра баявыя заданні і пераходы, пра асаблівасці побыту і многае іншае. Такі вось, скажам, эпізод.

Лагойскія партызаны хадзілі рэйдамі на Радашковіцкую і іншыя чыгуначныя станцыі, падрывалі аўтакалоны на шашы Лагойск–Плешчаніцы, Лагойск–Мінск, ім патрабавалася шмат узрыўных рэчываў. Увесну 1943-га на вёскі партызанскай зоны наляцелі нямецкія самалёты. Не «месеры» і не «Юнкерсы», а ціхаходы тыпу У-2: яны скінулі бомбы на Калачы, Крамянец, іншыя вёскі. Страт вялікіх не нанеслі, толькі жыхароў папужалі. (Ці не хацелі немцы сарваць пасяўную кампанію, якую праводзілі тады партызаны?) Некалькі бомбаў не ўзарваліся, людзі паказалі, дзе яны ляжаць. Трохдзюймовыя снарады з апярэннем прынеслі ў руднянскі лагер. З іх аддзялілі стабілізатары і выкарыстаў знаходку ў якасці ўзрыўчаткі.

Падаліся ўдвух на чыгунку пад Баяры. Шлях ішоў праз Бабры, Калачы, Казлеўшчыну, Панышы, Манілы, Загорцы, дабраліся да Сычэвічаў. Калі ўстанавілі снарады, ледзьве не нарваліся на дазор. Беглі, азіраючыся, чакалі выбуху. Раздаўся такі неймаверны грукат, быццам «жалезку» бамбілі з самалёта. Паравоз і вагоны кульнуліся пад адхон. Момант ісціны для кожнага падрыўніка, які рызыкуе жыццём дзеля выканання адказнага даручэння. Далёка не жалезныя нервы ў канцы кожнага такога



Партызаны. Ілюстрацыйнае фота.

паходу былі напятыя, як струны.

Цікава даведацца, як пачыналася партызанскае жыццё былога ваеннапалоннага. Спачатку ён трапіў у атрад Кузняцова. Большасць мужчын у атрадзе ваявалі з вінтоўкамі, якія зваліся «пукалкамі», і толькі адзін меў аўтамат. Новенькаму ўручылі старую вінтоўку, якая захавалася не то з Грамадзянскай вайны, не то з Першай сусветнай. *«Патроны к ней в кожаной охотничьей сумке через плечо, тоже старые, даже зеленые от окисления, которые я тщательно вычистил, но был совершенно не уверен, будут ли они стрелять»*.

Да «Дзімы» партызан трапіў з групай асеціна Хатагава – яшчэ да таго, як атрад перайшоў у Лагойскі раён. «Сталіцай» атрада лічылася вёсачка Бабры, што недалёка ад Руднянскага бору. Пры снежнай зіме ворагаў можна было не баяцца: пешкі яны хадзіць не прывыклі, а машына загрузне ў снезе і ў глуш не дабярэцца. Таму спыняліся па хатах, спалі ўпокат на раскінутых снапах. Там жа пастаянна пражывалі разведчыкі і сувязісты з дыверсійных груп.

Пачаліся партызанскія будні: стаянне на варце, харчовыя і фуражныя «аперацыі» (так называлася здабыванне ежы для людзей і коней). Хтосьці адлыньваў ад рэйдаў і аддаваў перавагу дзяжурствам. Хтосьці завёў сабе ў вёсцы сяброўку, а значыць, меў рэгулярную падкормку ад «цешчы» і не быў зацікаўлены лезці на ражон. А Волкава цягнула на подзвігі – у прамым сэнсе слова. «Душа не ляжала» сядзець на базе, ён праўдамі і няпраўдамі імкнуўся трапіць на баявыя заданні. Аднак група Хатагава, з якой ён перасекся ў Налібоках, займалася якраз забеспячэннем. З гэтага і пачалося партызанскае жыццё навабранца.

Юрый Волкаў сумленна апісвае, як і з якімі маральнымі стратамі адбываўся працэс «вымання». *«С продовольствием было сложно. Брать его в соседних деревнях – рубить сук, на котором сидишь. Поэтому приходилось производить эти операции как можно дальше от «базы» – местонахождения отряда – и как можно ближе к немецким гарнизонам, то есть под Молодечно, Ильей, Красным, Радошковичами и др. Неприятное это было занятие – брать у крестьян муку, крупу, картошку, еще хуже – корову, забивать свинью, хотя последнюю скотину, как правило, никогда не брали. Всё это расходовалось очень бережно, так как доставалось с трудом и большой опасностью. Сколько ребят погибло на этих «продуктовых» операциях!»*

Ох, і няўдзячная гэта справа – здабываць харчы! Нідзе не сустракала, каб хтосьці пахваліўся такім спецыфічным абавязкам. Калі паслалі «на харчразвёрстку» будучага настаўніка Пятра Жардзецкага (вёска Якубавічы Баравыя), ён паехаў дадому і папрасіў у маці аўцу. «Бяры, сынок, бяры», – дазволіла мяккая сэрцам Полечка, і задаволены сын узваліў авечку на воз.

Асаблівасцю лагойскай – і ўсёй памежнай – партызанкі было тое, што за прыпасамі звычайна выбіраліся за старую дзяржаўную мяжу, да хутаран-аднаасобнікаў. Гэта называлася «паехаць на бамбёжку», або «прабамбіць».

*«Спачатку было ціха. Працягвалася звычайнае жыццё. Партызаны прыходзілі і па-людску прасілі паесці, якое-небудзь адзенне. Потым сталі прыходзіць ноччу і рабаваць фактычна ўсё. У нас забралі каня, карову, авечак адзенне, сала. (…) Патрабавалі самагонкі, солі. Каб застрашыць, часта стралялі ў столь»* (*Міхась Савіцкі*, «Новы час», 27.02.2015).

Адбіралі не толькі неабходнае для жыцця – валаклі ў клунках тараноўкі, цюлі, падушкі, посцілкі (не на карыстанне, дык на продаж). Вось чаму ў заходніх абласцях за некаторымі партызанамі замацавалася мянушка «падушачнікі». Каб каровы былі цалейшымі, іх адводзілі на ноч бліжэй да гарнізонаў.

Вось што піша пра начныя візіты *Рычард Жураўскі*, ураджэнец хутара ля Радашковічаў:

*«…па начах з'яўляліся «госці», і пасля кожнага візіту нешта з жыўнасці прападала. Гэта былі ўзброеныя людзі ў цывільнай вопратцы. Пашпартоў не прад'яўлялі, настаўлялі зброю і камандавалі: «Давай!» Аднойчы забралі авечак. Неўзабаве не стала свіней. Крыху пазней са двара вывелі нашых коней. Пад канец вайны наш дзед стаў поўным «пралетарыем»* («Старая ліпа», 2014).

Тое самае было ў Валожынскім раёне. *«Чаще всего в осенне-зимний период и сугубо только в ночное время в запертую дверь дома раздавался стук прикладом оружия. (…)Ночные визитеры (…) требовали многое: муку, сало, картофель, овощи, домашнюю утварь, новую обувь, хлеб, керосин и различный инструмент. При этом производился повальный обыск, чтобы хозяин не утаил чего-либо. Телеги, сани, упряжь, лошадь, корова, овцы, свиньи забирались в обязательном порядке. Тщательному осмотру подвергались сараи, погреба, чердаки»* (з пісьма ў «Белорусскую газету»).

Па старой памяці Волкаў вадзіў таварышаў на заданні ўглыб Заходняй. «Група татарчукоў», як яе звалі, займела ўласную «базу» – вёску Трылесіна ў Смаргонскім раёне, дзе знайшла надзейных сяброў. (Магчыма, і сяброўак, але аўтар далікатна абыходзіць гэты момант.) У 1944-м у тую мясцовасць прыбыла брыгада імя Суворава і выкурыла «дзімаўцаў» з нагрэтага месца. *«Нам явно дали понять, чтобы мы убирались в свой район и не лезли в «чужие дела»*. Аўтар успамінаў лічыць гэта праявай зайздрасці і канкурэнцыі, якія «мелі месца быць» у партызанскім асяроддзі.

З адзеннем было прасцей: усё, што можна, здымалі з забітых немцаў. Вядомы савецкі дыверсант *С.Ваўпшасаў* піша: *«В большом ходу были трофейные сапоги, а порой партизаны надевали и лапти, когда становилось уж совсем туго. Мне самому пришлось в то первое лето лесной войны походить некоторое время в лаптях, пока не разжился фашистскими сапогами, свои-то я износил в дальнем снежном рейде и весенней распутице»*. Пры адступленні немцаў, калі іх расстрэльвалі дробнымі групамі, адзін партызан не змог зняць з забітага наваксаваныя чаравікі – бо яны нязвыкла смярдзелі. Так і пайшоў без абноўкі.

Атрады размеркавалі паміж сабою населеныя пункты, дзе мусілі карміцца. Каб абараніць сялян ад пабораў, сакратар Лагойскага райкама партыі І.Цімчук летам 1943-га напісаў інструкцыю, колькі чаго ў сялянскай сям'і можна браць за суткі. Наўрад ці выконвалася гэтае распараджэнне. Ды і хто мог пракантраляваць яго выкананне? Каб купіць або вымяняць соль, запалкі, зажыгалкі, мыла, ёд, з лесу адпраўлялі надзейных людзей на Камароўку і Старажоўку. Атрадам Катоўскага, які займаўся марадзёрствам і продажам здабытага, было прададзена дзесяць сялянскіх коней, дзесяць кароў, некалькі дзясяткаў авечак. За атрыманыя грошы набывалася ў вялікай колькасці гарэлка, табак, духі, пудра і панчохі для дам, хром на тры паліто для камандзіра атрада і таму-сяму са штабнога начальства. Апошняе можна расцэньваць як спробу подкупу. Ці ўплывалі паднашэнні на размеркаванне рэсурсаў і колькасць узнагароджанняў, мы ведаць не можам.

За два гады вайны на акупаванай тэрыторыі партызаны набылі вопыт, адаптаваліся да цяжкасцяў, абзавяліся знаёмствамі, а яшчэ набраліся самаўпэўненасці і нахабства. Юрый Волкаў не ўжывае падобных слоў, затое праўдзіва апісвае паводзіны ўзброеных людзей сярод беларускага насельніцтва. Нездарма яго кніга мае назву «*Война без прикрас и героических подвигов*».

Вось, напрыклад, эпізод з вяселля ў Заходняй, які аўтар называе «забаўным». *«Наше появление вызвало замешательство: все с опаской поглядывали на наше автоматическое оружие (пять автоматов!). Срочно освободили места за столом, мы, даже не присаживаясь, подняли только «келишки» с мутноватой жидкостью за счастье жениха и невесты, затем наполнили еще раз и заставили всех выпить «За Родину, за Сталина! За нашу победу!»*.

Пасля гэтага, закінуўшы аўтаматы за спіну, як умелі танчылі, заляцаліся да паненак, а самі між тым выглядвалі абуўку на маладых і сталых гасцях. Па адным выводзілі ўладальніка лепшых «бутаў» на двор і прапаноўвалі… памяняцца, *«по возможности без шума, действуя методами «убеждений», что нам сапоги нужнее»*. Як бы вы сябе адчувалі, апынуўшыся на фэсце ў чужых атопках? І што б думалі пра няпрошаных гасцей з аўтаматамі?

Здараліся і страшнейшыя выпадкі. У Карэліцкім раёне бралася шлюбам вясковая пара. У разгар вясельнай цырымоніі, калі маладыя сядзелі за сталом, прыскакаў на кані партызанскі камандзір і прыцэльна стрэліў у жаніха. Мясцовыя, асцерагаючыся, дагледалі магілку трагічна загінуўшага хлопца, а ў нашы часы нават паставілі новы крыж. (Запісана ад *Ганны Дораш.*)

Пры наступленні многія з партызанаў уліліся ў шэрагі Чырвонай Арміі. Мясцовых угаворвалі застацца ў сваіх раёнах на кіруючых пасадах. Далёкім таксама прапаноўвалі – з вызваленнем ад службы ў войску, але мала хто пагаджаўся. Пасады ў гарадах і раёнах, між іншым, былі раздадзены задоўга да вызвалення тэрыторыі ад фашыстаў. У выніку амаль уся пасляваенная партыйна-савецкая наменклатура БССР складалася са знакамітых дзеячаў партызанскага руху.

Гавораць, што шараговых партызанаў узнагароджвалі скупа і нехаця. Высокія званні былі не для іх. Мне расказалі пра адзін выключны подзвіг часоў Другой сусветнай, што адбыўся на Палессі. Падрыўнік устанавіў узрыўную прыладу на рэйкі і чакаў нямецкі цягнік. Той прайшоў без ніякіх перашкод, прылада не спрацавала. Партызан дачакаўся яшчэ аднаго эшалона – зноў асечка. У чым справа? Наступным сунуўся даўжэзны састаў з танкамі. Мужны чалавек выйшаў на рэйкі перад паравозам і ўзарваў міну ў сябе на грудзях. (Падобныя гісторыі, заўважу, перадаюцца вусна, а таму набываюць прыкметы міфа.)

Камандаванне прадстаўляла загінуўшага да найвышэйшага звання, але без выніку. І толькі ў 1975 годзе, да 30-гадовага юбілею Перамогі, паплечнікі дабіліся для сапраўднага героя ордэна Айчыннай вайны II ступені.

Атрады распусцілі, партызанская эпапея завяршылася. Што было далей, даведваемся ад таго ж Волкава. Калі стала вядома, што Мінск вызвалены, «дзімаўцы» вырашылі падацца туды і шукаць прадстаўнікоў з Разведупраўлення штаба арміі. Здалі рацыю ў Камітэт дзяржбяспекі (ён першым атабарыўся ў разбуранай сталіцы), а заадно па старой звычцы «прабамбілі» заможную кватэру «гітлераўскага прыспешніка». Знайшлі там каштоўную рэч – цэлую бутлю спірту. Разлілі гаручую вадкасць па бутэльках – і займелі білеты на ўсе віды транспарту. Да Масквы дабраліся такія вясёлыя, што некага нават выносілі з вагона. Ніхто з іх тады не думаў, што надоўга стане аб'ектам пільнай увагі з боку ведамства Берыі і яго паслядоўнікаў.

Што ўстаноўка на самазабеспячэнне была пралікам з боку Крамля, не раз адзначалася нашымі гісторыкамі. Уяўлялася, што ўсё неабходнае – узбраенне, вопратку, прадукты, медыкаменты – партызаны павінны здабываць самі. У баях з ворагам. Прасцей кажучы: забяспеч сябе сам – і ваюй. І што адметна: на сустрэчах з камандаваннем вобласці і штаба камандзіры, камісары, начальнікі разведак, сувязісты прасілі прыслаць з-за лініі фронту больш узбраення – і ніхто не заказваў цёплага адзення, абутку, мукі, тушонкі, солі. Усё гэта даводзілася здабываць праўдамі і няпраўдамі, бо які воін з галоднага і неапранутага? З-за пастаянных пабораў лясныя байцы і здабылі сабе нядобрую славу сярод цывільнага насельніцтва. *«Без марадзёрства не магло быць ніякай партызанкі»*, – перакананы адзін з маіх субяседнікаў. Як не магло яе быць, дадам, без лесу і беларускага балота.

Дапамогу ў лес можна было даставіць толькі паветраным шляхам. Лясныя аэрадромы называлі «пасадачнымі палосамі». У Любанскім раёне прама на балоце сіламі мясцовага насельніцтва праклалі паўтара кіламетра пасадачнай паласы. Яе ахоўвалі шэсць кулямётчыкаў. Аэрадром той на востраве Зыслаў узвялі спецыяльна для Мінскага падпольнага абкама партыі, які, кажуць, ахоўвалі і берaглі тры атрады. Там прынялі звыш ста рэйсаў з Цэнтра (не лічачы скінутых цюкоў).

Самалёты з Вялікай зямлі прызямляліся і ў іншых раёнах Беларусі. У Бягомлі, напрыклад. У любое надвор'е, заўсёды ноччу, прымалі цяжкія «лятаючыя танкі» Іл-2, якія лётчыкі жартам звалі «Два лі»: «Взлетит ли… Сядет ли…» Для дастаўкі грузаў авіятары прыстасавалі нават просценькі самалёцік У-2, на якім у мірны час вучылі пілатаванню. Здараліся перагрузы і аварыі прама на аэрадромах. Вораг абстрэльваў з зенітак, даганяў знішчальнікамі «Люфтвафе», адбываліся аварыі з-за кепскіх умоў надвор'я.

101-ы авіяполк пад камандаваннем славутай лётчыцы Валянціны Грызадубавай паступіў у распараджэнне Цэнтральнага штаба партызанскага руху (ЦШПД) і здзяйсняў палёты ў тыл ворага. Мне на вочы трапіліся ўспаміны *А.М.Вярхозіна «Самолеты летят к партизанам: записки начальника штаба»* (Политиздат, 1964). З гэтых нататак я зразумела:

а) усе лётчыкі былі героямі незалежна ад таго, хто ўганараваны афіцыйна;

б) менавіта партызанскія штабы давалі ў полк заяўкі, які атрад (брыгада) у чым мае патрэбу;

в) атрад без рацыі не мог разлічваць на дапамогу з паветра;

г) большыя шанцы мелі «гучныя камандзірскія імёны»: самалёты ляцелі да Заслонава, Шмырова, Каўпака ў арлоўскія, бранскія і клічаўскія лясы;

е) у разгар вайны, калі атрады выраслі і шмат у чым мелі патрэбу, палёты на беларускую зямлю звялі да мінімуму.

Нягледзячы на заяўкі, 101-ы авіяполк у снежні 1942 года здзейсніў толькі 28 самалёта-вылетаў, у студзені 1943-га – 58, у лютым – 49. Адной з прычын недастатковага забеспячэння атрадаў з Цэнтра лічыліся кепскія метэаралагічныя ўмовы. Аднак не толькі з-за нялётнага надвор'я ігнараваліся просьбы падпольна-партызанскай Беларусі.

Для параўнання: у той жа перыяд на ўкраінскі напрамак магло адбыцца за месяц па 150–200 вылетаў. Адчуваеце розніцу? Працытуем сведчанне партызана з атрада Каўпака: *«Патронов у нас всегда было достаточно, соединение снабжалось Москвой, и даже в самые тяжелые дни партизанской войны, за исключением возвращения из «Карпатского рейда», я не помню, чтобы приходилось считать последние патроны»* (*Барыс Цырлін*, з сайта «Я помню»). Нават калі пачаліся пастаўкі па лендлізу (а гэта была сур'ёзная, адчувальная дапамога саюзнікаў), лясным байцам, якія дзейнічалі на тэрыторыі Беларусі, па-ранейшаму мала што перападала.

У 1990-х выйшаў дакументальны фільм-маналог «Пасля Перамогі». Пісьменнік *Валянцін Тарас*, які сам быў у партызанах, пасмеў абнародаваць, што яны карміліся і апраналіся за кошт сялян. Пасля паказу фільма ветэранская арганізацыя Заводскага раёна г.Мінска звярнулася да Генеральнага пракурора з патрабаваннем узбудзіць супраць аўтара крымінальную справу «за паклёп на Вялікую Айчынную вайну і ветэранаў».

*«Дзіву даюся, як могуць дарослыя людзі не разумець простых рэчаў: партызаны не былі ў складзе рэгулярнай арміі. (…) Яны карміліся, апраналіся і абуваліся выключна за кошт насельніцтва беларускіх вёсак. І толькі цалкам не абазнаны чалавек або двурушнік можа сцвярджаць, што ўтрыманне партызанскай арміі ў некалькі соцень тысяч чалавек было для беларускага селяніна радасцю, святам душы, што ўсё аддавалася цалкам добраахвотна і падносілася, як хлеб-соль дарагім гасцям»*, – пісаў удзельнік вайны. У партызанскі атрад Валянцін Тарас, да слова, трапіў у 13 гадоў.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**член Саюза беларускіх пісьменнікаў.**

ШАХМАТЫ

## Ушасцёх на аднаго




Сваю новую задачу прапануе чытачам Міхаіл Кошаль з Мінска.

**Белыя:** Kph7, Фg5, Cd8, Cg2, пп. c5, f6 (6).

**Чорныя:** Kpd4 (1).

**Мат за 3 хады.**

Дасылайце рашэнні на адрас рэдакцыі ***(220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а)*** або на электронны адрас: ***vadim_ne67@mail.ru.***

### Памяці Майстра

У Мінску прайшоў другі Мемарыял Віктара Купрэйчыка па хуткіх шахматах. Летась у першым мемарыяле праводзіўся асобны турнір для вядомых шахматыстаў сталага ўзросту – сяброў і паплечнікаў Купрэйчыка. Сёлета ж усе гулялі ў агульным турніры. У ім змагаліся 92 удзельнікі з 12 краін, у тым ліку 59 з Беларусі і 24 з Расіі. Сярод гульцоў былі 12 гросмайстраў, 9 міжнародных майстроў, 6 майстроў ФІДЭ. Набраўшы 8 балаў з 10, перамог беларускі гросмайстар ***Сяргей Жыгалка***. 2–4-е месцы падзялілі расійскія гросмайстры Сяргей Ціввякоў і Юрый Балашоў і малады беларускі шахматыст ***Максім Царук*** – па 7,5. На 5–10-м месцах з 7 баламі – ***Дзяніс Лазавік, Віталь Цэцэраў*** (Беларусь), Яўген Свешнікаў, Давід Паравян, Уладзімір Міхайлоўскі (Расія), Рафаэл Ваганян (Арменія). Сярод жанчын лепшы вынік ва ўкраінскага гросмайстра Наталлі Жукавай – 11-е месца.

### Шахматныя кадэты

Адначасова ў беларускай сталіцы праходзіў трэці чэмпіянат свету ФІДЭ па хуткіх шахматах (рапідзе) і бліцы сярод хлопчыкаў і дзяўчынак да 8, 10 і 12 гадоў. Юныя шахматысты прадстаўлялі 35 шахматных федэрацый. У агульным заліку па-за канкурэнцыяй была Расія – 17 медалёў (6 залатых, 4 сярэбраныя і 7 бронзавых). На рахунку беларусаў два залатыя медалі ў рапідзе: ***Арцём Стрыбук*** стаў чэмпіёнам свету сярод хлопчыкаў да 12 гадоў, а ***Варвара Мацкевіч*** – сярод дзяўчынак да 8 гадоў.

### Адзін медаль на ўсіх

У Браціславе (Славакія) прайшлі юнацкія і дзявочыя чэмпіянаты Еўропы ва ўзроставых катэгорыях да 8, 10, 12, 14, 16 і 18 гадоў. Агульная колькасць удзельнікаў – 1306 з 48 краін. Узнагароды заваявалі прадстаўнікі 14 краін: на рахунку Расіі 12 медалёў, Азербайджана – 5, Украіны – 4 медалі.

З 30 юных беларусаў медаль заваявала толькі міжнародны гросмайстар ***Вольга Бадэлька*** – серабро сярод дзяўчат да 18 гадоў. На яе рахунку 6 перамог і 3 нічыі. Чацвёртыя месцы занялі ***Варвара Мацкевіч*** (да 8 гадоў) і ***Ксенія Зелянцова*** (да 14), шостае – ***Арцём Стрыбук*** (да 12), восьмыя – чэмпіёнка Беларусі ***Аляксандра Тарасенка*** (да 14) і ***Мілена Сідарэня*** (да 10), дзявятае – ***Вячаслаў Зарубіцкі*** (да 18), адзінаццатае – ***Максім Царук*** (да 14), дванаццатае – ***Міхей Навуменка*** (да 12). Вось адна з перамог беларускага ўдзельніка.

***Максім Царук – Маціас Унеланд***

1.e4 e6 2.d4 d5 3.Kd2 c5 4.ed Фd7 5.dc Ф:d5 6.Kgf3 Kf6 7.Ce2 C:c5 8.Cc4 Фd8 9.Фe2 a6 10.0-0 Kbd7 11.a4 b6 12.Ke4 K:e4 13.Ф:e4 Лb8 14.Фe2 Лa8 15.Фe4 Лb8 16.Фe2 Лa8 17.Лd1 Фc7 18.Cd3 Cb7 19.Cg5 Cd6 20.Ce4 Kc5 21.C:b7 K:b7 22.Лd4 0-0 23.Лad1 Лfe8 24.Лc4 Фb8 25.c3 f6 26.Ce3 Kc5 27.a5 e5 28.ab e4 29.C:c5 ef 30.Ф:f3 C:h2+ 31.Kph1, 1:0.

### Форум кампазітараў

У Вільнюсе прайшоў заключны этап Кубка свету 2018–2019 гадоў па рашэнні задач і эцюдаў. Перамог шматразовы чэмпіён свету з Польшчы Пётр Мурдзя, але па суме вынікаў усіх этапаў Кубак свету выйграў 16-гадовы расійскі рашальнік Даніла Паўлаў.

Адбыўся таксама чэмпіянат свету па рашэнні. Прызавую тройку склалі Польшча, Расія і Англія, а Беларусь фінішавала на 14-м месцы. За нашу каманду выступалі ***Аляксандр Булаўка*** (30-е месца з 91 у асабістым заліку), ***Мікалай Сігневіч*** і ***Аляксандр Міхалап***. У асабістым заліку чэмпіёнам стаў Пётр Горскі (Польшча).

### Запрашаюць да ўдзелу

Камісія па шахматнай кампазіцыі Федэрацыі шахмат Украіны аб'явіла міжнародны конкурс складання, прысвечаны 50-годдзю майстра Сяргея Барадаўкіна, у трох раздзелах: каапературыўныя маты ў 3 хады (суддзя – Аляксандр Семяненка), эцюды (суддзя – Уладзіслаў Тарасюк), зваротныя маты ў 4–8 хадоў (суддзя – сам юбіляр). Дапускаюцца не больш за дзве задачы або два эцюды ў кожным раздзеле ад аднаго аўтара. Устаноўлены прызы, ганаровыя і пахвальныя водгукі. Задачы можна дасылаць да 12 кастрычніка 2019 года на e-mail: ***borod3017@gmail.com***. Вынікі будуць апублікаваны на працягу трох месяцаў, усе ўдзельнікі атрымаюць іх у электронным выглядзе.

### Праверце адказы

Задача М.Шаблінскага, змешчаная ў «Народнай Волі» 27 жніўня, рашаецца: **1.Фb3**. Першымі правільна адказалі ***Мікалай Шклярэўскі, Леанід Калодка, Васіль Жуковіч, Ігар Ананіч, Сяргей Галкін, Віктар Жук, Сяргей Цяльпук***.

**Вадзім ЖЫЛКО.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

Віктар ШАРШУКОЎ:

# «Уражанні ад Тайланда? Было шмат перцу!..»

*Старшы трэнер мужчынскай зборнай Беларусі па цяжкай атлетыцы адразу па вяртанні дадому з Тайланда распавёў «Народнай Волі» падрабязнасці таго, як праходзіла сусветнае першынство.*



– Я лічу, што ў нас было вельмі прыстойнае выступленне, – *кажа Віктар Яўгенавіч*. – 20-гадовы Яўген Ціханцоў стаў чэмпіёнам свету, Андрэй Арамнаў *(на фота)* заваяваў серабро. Ёсць у нас рэкорд свету і Еўропы, спартсмены абнавілі 17 нацыянальных рэкордаў. Зборная заняла пасля кітайцаў другое месца ў агульным заліку. І гэта пры ўсім тым, што наша каманда даволі маладая.

**– Золата Ціханцова можна назваць невялікай сенсацыяй?**

– Для мяне гэта не сенсацыя, я прагназаваў, што Яўген будзе чэмпіёнам. Невялікія сумненні былі, бо хлопец адчуваў дыскамфорт пасля траўмы, а таму было вырашана выступаць у іншай вагавай катэгорыі, каб не асабліва напружвацца.

Увогуле, у Яўгена Ціханцова цудоўныя перспектывы, і сярод маладога пакалення ён зараз лідар. Рыхтуецца да Алімпіяды.

**– Наколькі вядома, з-за допінгавых скандалаў Беларусь мае толькі адну мужчынскую ліцэнзію на Алімпіяду-2020…**

– Так, і зараз на адну пуцёўку на Гульні прэтэндуюць адразу чатыры спартсмены – Яўген Ціханцоў, Андрэй Арамнаў, Вадзім Ліхарад і Эдуард Зязюлін. Дарэчы, не выключана, што нам дадуць яшчэ адну ліцэнзію, хаця гэта, што называецца, пакуль віламі па вадзе пісана.

**– Для трэнерскага штаба выбраць аднаго кандыдата на Алімпіяду – складаны выбар?**

– Суперскладаны! Ціханцоў – на пад'ёме, Арамнаву па сілах заваяваць золата на Гульнях, калі будзе працаваць на тым жа ўзроўні, як гэта было ў апошні час.

**– Многія ўжо не верылі ў вяртанне героя пекінскай Алімпіяды-2008…**

– А я верыў адразу, і калі б было інакш, то не рэаніміраваў бы яго. Ды і ў самога Андрэя было проста неверагоднае жаданне вярнуцца ў вялікі спорт, хаця, па сутнасці, нам давялося пачынаць практычна з нуля.

Але талент ёсць талент. Арамнаў за год зрабіў практычна немагчымае. І калі зараз ізноў не падхопіць «зорную хваробу», то праз год ён адназначна будзе алімпійскім чэмпіёнам.

**– Якой была арганізацыя турніру ў Тайландзе?**

– Пэўныя праблемы былі, але я заўсёды кажу так: усе спартсмены знаходзіліся ў аднолькавых умовах. І калі ты насамрэч падрыхтаваны, то нічога табе не перашкодзіць. Маладыя хлопцы выходзілі і працавалі, прабачце, як коні. 17 рэкордаў краіны паставілі!

Што тычыцца харчавання і іншых арганізацыйных момантаў, то тут усё ў парадку. Хіба што ў ежы часам было зашмат перцу.

**– Удалося ў вольны час недзе пабываць?**

– Урачы і масажысты, можа, дзе і пабывалі, але я за ўвесь час турніру нават ніводнага разу не паплаваў, хаця да вады было рукой падаць. У мяне такога складанага чэмпіянату яшчэ ніколі не было. Добра пачалі першынство, затым пачалі атрымліваць нулявыя ацэнкі… Не да экскурсій было, нават у горад не выходзіў.

**Алесь СІВЫ.**

ФУТБОЛ



# Ці ўтрымае брэсцкае «Дынама» лідарства?

*Прайшлі матчы 23-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе.*

Вось іх вынікі: «Дынама» (Брэст) – «Тарпеда» (Мінск) – 3:0, «Мінск» – «Энергетык-БДУ» (Мінск) – 1:6, «Дняпро» (Магілёў) – «Слуцк» – 3:0, «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) – «Гомель» – 2:0, БАТЭ (Барысаў) – «Нёман» (Гродна) – 1:0, «Дынама» (Мінск) – «Шахцёр» (Салігорск) – 1:1, «Славія» (Мазыр) – «Гарадзея» – 0:1, «Віцебск» – «Іслач» (Мінскі раён) – 2:0.

### Турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Дынама (Бр) | 23 | 18 | 4 | 1 | 58–16 | 58 |
| Шахцёр | 23 | 17 | 3 | 3 | 47–14 | 54 |
| БАТЭ | 22 | 17 | 2 | 3 | 45–12 | 53 |
| Дынама (Мн) | 22 | 14 | 2 | 6 | 34–22 | 44 |
| Тарпеда-БелАЗ | 23 | 12 | 5 | 6 | 33–24 | 41 |
| Іслач | 23 | 11 | 4 | 8 | 31–27 | 37 |
| Гарадзея | 23 | 9 | 7 | 7 | 23–23 | 34 |
| Віцебск | 23 | 7 | 6 | 10 | 21–30 | 27 |
| Нёман | 23 | 7 | 5 | 11 | 21–32 | 26 |
| Слуцк | 23 | 7 | 5 | 11 | 22–39 | 26 |
| Славія | 22 | 6 | 5 | 11 | 23–31 | 23 |
| Мінск | 23 | 5 | 8 | 10 | 28–40 | 23 |
| Энергетык-БДУ | 23 | 4 | 7 | 12 | 36–57 | 19 |
| Дняпро | 22 | 5 | 4 | 13 | 23–31 | 19 |
| Гомель | 23 | 4 | 6 | 13 | 33–42 | 18 |
| Тарпеда | 23 | 1 | 3 | 19 | 4–42 | 6 |

Фота: dinamo-minsk.by

АНАТОМИЯ КОНФЛИКТА

# Дресс-код демократии не помеха,

## или Почему Аллу Московкину не пустили в здание суда



Нашу читательницу Аллу Михайловну Московкину охрана не пустила в здание суда Московского района, сославшись на то, что она неподобающим образом одета. Конфликт между ней и Департаментом охраны разгорелся еще жарким летом. Московкина, собственно, и сейчас не намерена прощать это, с ее точки зрения, гражданское оскорбление в свой адрес, хочет добиться ни много, ни мало увольнения охранников. Но ВРИО начальника Департамента охраны МВД В.А.Кулевец переписку с гражданкой Московкиной прекратил, потому что не считает действия своих подчиненных служебным проступком. В Департаменте принята инструкции о порядке посещения гражданами Минского городского и районных судов, и она гласит, что шорты, а также купальные костюмы и сланцы в присутственных местах недопустимы.

А Московкина возмущена: это были бриджи!

Вы тоже улыбнулись?..

По-хорошему, здесь бы не помешало перо Жванецкого: немолодая женщина, ветеран труда с 40-летним стажем, отстаивает свое право на укороченные штаны при обращении в суд. Но в охране обычно служат люди без артистических наклонностей, им внешний вид гражданки Московкиной показался на тот момент стремным. Выше колена, до середины колена? На глаз разве измеришь? Охрана настаивает: это были шорты! Но поспорить с женщиной о ее одежде возьмется разве что историк моды Васильев (который кстати, категорически не советует пожилым дамам носить бриджи). В общем, от Аллы Михайловны полетели письма по инстанциям. В «Народную Волю» в том числе.

Когда я назначала встречу нашей читательнице, то в мыслях рисовала себе, не скрою, экстравагантную особу. Но нет, моя соотечественница оказалась милой женщиной с ясными голубыми глазами, и, если уж мы здесь взялись говорить об одежде, то дама выглядит стандартно и по сезону. А вот нервы у человека болтаются на ниточках, и это считывается на раз. Мне показалось, что Алла Михайловна настроена контролировать буквально все вокруг – такой у нее взвинченный психоэмоциональный фон. «Эти твари совсем распустились!» – сказала она убежденным ораторским тоном, глядя мне прямо в глаза. И я поняла, что окоп, из которого Московкина ведет давнюю позиционную войну с внешним миром, стал для нее естественной средой обитания.

Человеку можно только посочувствовать: она ходит по судам больше десяти лет. Когда-то в результате развода с мужем ее квартиру пытались присвоить посторонние люди, но ей – при помощи суда, естественно! – удалось восстановить справедливость. Но на плече у нее по-прежнему висит холщовый хозяйственный мешок, плотно набитый перепиской с инстанциями всех уровней. И это, видимо, ее единственная броня. Алла Михайловна живет, как в бою. Она уверена, что и в дальнейшем ее жизнь будет проходить в подобном остросюжетном режиме. Человек, в принципе, заточен именно на такое бытование, буквально горит желанием повсеместного отмщенья, поэтому и конфликт по поводу бриджей-шорт Департаменту охраны с рук просто так, по ее мнению, сойти не должен: «Они что, каждый раз будут оценивать мой внешний вид?»

Я должна разочаровать уважаемую Аллу Михайловну: будут. И не только они. И не только ее. При всем либерализме современного гардероба – дырки, лохмотья, оголенные пупки, пирсинг и т.д. – дресс-код в обществе никто не отменял. Правила будут существовать, полагаю, всегда – и слава Богу. Потому что одежда – это, кроме всего прочего, своеобразная психологическая защита людей от людей же в огромном перенаселенном городе. По дикому лесу, когда рядом никого, гуляй хоть с фиговым листком, а в городе будь любезен прикрыться побольше. Броня у нас и так истончилась, как осенний листок, – ведь перегрузки каждый день человек в мегаполисе испытывает чудовищные. Поэтому люди, чтобы совсем не потерять голову, придумали правила общежития, в том числе своего рода общественный договор о дресс-коде. «Голые люди имеют крайне малое влияние в обществе, а то и вообще никакого», – я в подобных случаях очень люблю вспоминать этот афоризм Марка Твена.

Во вьетнамках вас не пустят в ресторан – причем ни в одной столице мира. Хотя в какую-нибудь пиццерию на курорте – запросто, рядом с пляжем это возможно. Случается, что для мужчин в ресторане обязателен пиджак, а вы налегке. Тогда швейцар предложит вам пиджак на выбор из, что называется, ресторанных запасов – некоторые заведения на Западе именно так работают с клиентами.

В театр вы, надеюсь, не пойдете в соломенной шляпе или бейсболке. Там же лучше не появляться в шортах и бриджах, потому что – не стадион, в зале совершенно другая атмосфера. Я не раз видела в концертных залах мира, как туристов в шортах и кедах (думаю, это все-таки были приезжие) не пускали в партер, а твердо отправляли на галерку. И люди не роптали. В храм вы тоже не решитесь зайти с голыми плечами, а подчинитесь правилам конфессии. А если запросто можете себе позволить пойти наперекор всему, то у вас, скорее всего, очень низкая самооценка и надо поработать с психологом.

Собираясь к врачу, вы наденете свежую сорочку. Разве нет? И доктор встретит вас в белом халате, а не в рваных джинсах и растянутой футболке. Иначе какое к нему будет доверие у пациента? Ну, и судебные инстанции требуют от посетителей определенного внешнего вида, потому что деловая одежда сама по себе настраивает людей на строгие отношения. И это благо, а не злая прихоть чиновников. Я уже не говорю о дресс-коде, который многие солидные фирмы вводят для своих сотрудников. Психологи считают, что это способствует сплочению коллектива. И попробуй пойти против! В иных случаях, думаю, может кончиться увольнением.

Конечно, надо чувствовать, какая одежда подобает возрасту и обстановке. Возможно, Алла Михайловна выглядела пристойно даже в укороченных штанах, а охранники перегнули палку. Бывает. Они люди простые, служивые. Но стоит ли обострять ситуацию и тем более утверждать, что нарушили твое конституционное право на обращение в суд? Это бытовая ситуация, к гражданским правам она не имеет прямого отношения. Недоразумения и конфликты сопровождают в большом городе практически каждого из нас: вас толкнули в метро и не извинились, кто-то грубо встал вне очереди в магазине, не приняли в салоне красоты, хотя вы идете по записи, а то, бывает, вообще сели на ваше место в театре… Это обидно, даже порой возмутительно, но… при чем здесь демократия?

В нашей редакционной почте есть, например, письмо, в котором человек жалуется на городской общественный туалет. Его тоже туда не пустили. Потому что туалет был платный, а у него в кармане деньги на тот момент кончились. Где человеколюбие, где гуманизм?! – гневно вопрошает читатель. Я ему сочувствую, но, надеюсь, на тропе войны он будет стоять недолго. Надо уметь, что называется, вовремя отпустить вожжи, чтобы сохранить нервы. Жизнь полна импровизаций, и ситуация часто складывается не в нашу пользу – на то она и жизнь. И есть золотое правило общежития: «Не обостряй!» Я бы его писала во всех присутственных местах. Рядом с лозунгом «Добро пожаловать!», конечно.

**Елена МОЛОЧКО.**

**Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.**

**Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.**

**Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.**

nvonlineinfo@gmail.com

http://www.nv-online.info

**Падпісныя індэксы:**

**63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,**

**632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.**

**Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар**

**Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**



Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 30.09.2019 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 22 006 экз. Заказ № 3461.

